„У песнях жа родны край, родныя словы
Жылі і жывуць, і жыць будуць заўсёды."

Янка Купала /„Родныя песні"/



Аддаем у Вашыя рукі Дарагія Сябры зборнік нашых беларускіх песень. Думаем што дапаможам лепей пазнаць частку нашай беларускай культуры, спадчыну нашых продкаў.

У сьпеўніку знайшліся нашыя фальклорныя песні ,песні нашых паэтаў якія апявалі наш народ, прыгажосць нашай зямлі і мовы.

Беларускае Аб'яднанне Студэнтаў.

Беласток, красавік 1989г.

Oddajemy w Wasze ręce Drodzy Przyjaciele śpiewnik naszych białoruskich pieśni i piosenek. Spodziewamy się, że pozwolą one lepiej poznać cząstkę naszej białoruskiej kultury, spuściznę naszych przodków.

W śpiewniku tym znalazły się pieśni ludowe i pieśni naszych poetów, którzy opiewali nasz naród, piękno naszej ziemi i mowy.

Białoruskie Zrzeszenie Studentów.

Białystok, kwiecień 1989r.

# I. БЕЛАРУСЬ МАЯ

/сл.С.Саколаў-Воюш, муз.В.Навіцкі/

А-кса-мі-тны ле-тні ве-чар а-хі-нуў зя-млю я ва-
-зёрну-ю сі-не-чу ву-снамі лаў-лю,моў-кі слу-ха-ю
ў ро-сах пе-сню са-ла-ўя над маім лу-на-е лё-сам
Бе-ла-русь ма-я

Аксамітны летні вечар
Ахінуў зямлю,
Я вазёрную сінечу
вуснамі лаўлю,
Моўкі слухаю ў росах
песню салаўя,
Над маім лунае лёсам
Беларусь мая! x 2

А над лесам,над сусветам
выпрастыў крыло,
Залацісты човен лета,
зорнае вясло,
Там дзявочай БелайВежы
воды ў ручаях,
Я адной табе належу
Беларусь мая! x 2

Там дзе гойдае вятрыска,
залаты прастор,
Паўставалі камяніскі
ля тваіх дарог,
Чырванее ранні золак,
рэха ў гаях,
А ў грудзях тваіх асколак
Беларусь мая! x 2

Мне краеу чужых не трэ.
як не варажых,
Не хачу чужога неба,
радасцяў чужых,
Бо чужына сэрца жаліць,
цісне як зьмяя,
Пагукая з дальніх даляў
Беларусь мая!

## 2. ЛЮБЛЮ НАШ КРАЙ

/сл.К.Буйлы/

Люб-лю наш край ста-рон-ку гэ-ту, дзе я ра-дзі-
-ла-ся, рас-ла, дзе пер-шы раз па-зна-ла шчась-це,
сьля-зу ня-до-лі пра-лі-ла.

Люблю наш край-старонку гэту,
Дзе я радзілася, расла,
Дзе першы раз пазнала шчасце,
Слязу нядолі праліла. ] х 2

Люблю народ наш беларускі
І хаты ў зелені садоў,
Залочаныя збожжам нівы,
Шум нашых гаяў і лясоў. ] х 2

І жніва час душой люблю я,
І першы звон сярпоў і кос,
Калі на поле выйдуць жнеі,
А касары на сенакос. ] х 2

І песню роднуюлюблю я,
Што ў полі жнеі запаюць,
Як гукі звонкія над нівай
Пераліваюцца, плывуць. ] х 2

Люблю ў пагодную я ночку
Да позна ў садзіку сядзець,
Сачыць за ясных зор мігценнем
На месяц залаты глядзець. ] х 2

Мне тут усё для сэрца міла,
Бо я люблю край родны свой,
Дзе з першым шчасцем я спазналась
І з першай горкаю слязой. ] х 2

## 3. РОДНЫ МОЙ ГОРАД

Пе-сняй жураі-вай кры-лом жу-раў-лі-ным зо-рак
су-ні-ца-мі, Пер-шым спат-ка-ням і пер-шым рас-сням
го-рад мой сні-цца мне, Род-ны мой го-рад лю-боў
мая каз-ка ка-ха-ння ча-роў-ная ты ка-лі лас-ка
ча-кай мя-не з кож-най дарогі са шля-ху расстай-нага.

Песняй журлівай,
крылом жураўліным,
зорак суніцамі.
Першым спатканям
і першым расстаням,
горад мой сьніцца мне.

Прыпеў: Родны мой горад,
Любоў мая,
Казка кахання чароўная,
Ты, калі ласка,
Чакай мяне,
З кожнай дарогі,
Са шляху расстайнага, ] х 2

Пад гістарычным,
і сонечным небам,
днём і парой начной,
Сьветлае шчасьце,
як ветразь надзеі,
горад вясны маёй.

Прыпеў: Родны мой... х 2

Закалыхалі начныя праспекты,
клёны з таполямі,
Толькі чакалі нас,
ў горадзе гэтым,
толькі нас помнілі.
Прыпеў:Родны мой... х 2

## 4. БЕЛАСТОЧЧЫНА

/сл.В.Шведа, муз.В.Карузюкевіча/

Бе-лас-точ-чы-на зя-мель-ка родна- я жы-

-веш заў-сё-ды ты ўглы-бі маіх гру-дзей мяс-ці-

-ны не сус-трэў у жыцці ні вод- на - е я-ка-яб мне

бы-ла хоць крышку да-ра-жэй мяс-ці-ны да-ра-жэй

Беласточчына зямелька родная, жывеш
Заусёды ты ў`глыбі маіх грудзей,
Мясціны не сустрэў у жыцці ні воднае,
Якаяб мне была хоць крышку даражей.

Вось родны краявід, палоскі вузкія,
Якія дробніць люд вясковы з году ў год:
Сярод палёў пасёлкі беларускія,
Дзе ад вякоў жыве мой дарагі народ.

Там села, як грыбок, хатка вясковая,
Дзе крокі першыя ў жыцці сваім рабіў,
Дзе ад бацькоў вычыўся роднай мовы я,
Таму ніколі мовы гэтай не забыў.

На Беласточчыне пражыў я маладосць.
А найважнейшае - я нарадзіўся тут.
Найдаражэйшаю таму была і ёсць
Мне Беласточчына, мой родны, мілы кут.

## 5. ДЗВЕ ТАПОЛІ

/сл.Я.Купалы/

Там за вё-скай у по-лі дзве ста-я-лі та-по-лі

як ад-на дзве та-по-лі ста-я-лі, І стаг-на-лі у по-

-лі су-ха-вей-на та-по-лі як ад-на дзве та-по-лі

стаг-на-лі Аб ус...

Там, за вёскай, у полі дзве стаялі таполі,
Як адна, дзве таполі стаялі,
І стагналі у полі сухавейна таполі, ] х 2
Як адна, дзве таполі стагналі,

Аб Усходзе ў полі ўсё шумелі таполі,
Як адна, дзве таполі шумелі,
І аб Захадзе ў полі лісцьмі пелі таполі, ] х 2
Як адна, дзве таполі усё пелі,

Што панююць у полі над дубамі таполі,
Як адна,дзве таполі панююць,
Што начуюць у полі самаўладна таполі,
як адна,дзве таполі начуюць... ] x 2

Неба помсту ў полі тут пачулі таполі,
Як адна,дзве таполі пачулі,
І навекі ў полі дзве заснулі таполі,
Як адна,дзве таполі заснулі. ] x 2

## 6. ВАСІЛЁЧКІ

Andante

Рась- цьві -та-лі
ў жы-це ва-сі-лёч-кі,ва- сі-лёч-кі ўсю-ды,дзе ні
кінь... Ой,ча- му ка-ро-ценькі-я ноч-кі, ой,ча-
-му вя-лі-кі-я дзянькі?

для канца

Разцьвіталі ў жыці васілёчкі,
Васілёчкі усюды дзе ня кінь,
Ой чамуж кароценькія ночкі,
Ой чамуж даўжэнькія дзянькі, ] x 2

Дзень цалюткі жыценька я жала,
Мае ручкі,ножанькі баляць,
Ня будзі матуленька так рана,
Дзень цалюткі спрытна буду жаць, ] x 2

Унь,ідзе дарожанькай каханы,
Перасталі ручкі мне балець,
Ой чамуж ты ноченька так мала,
Няма часу з любым пахуляць. ] x 2

## 7. У ГУШЧАРАХ

/сл.Н.Арсеньневай, муз.М.Шчаглова/



У гушчарах, затканых імглою,
Шерым змрокам на зорку зару,
Ахвяруем Табе мы сабою, ] x 2
Кожны дзень, кожны час Беларусь!

І няма ў сэрцах жалю, ці страху,
Мы адвагай юнацкай гарым,
Не чужыя варожыя сілы, ] x 2
Толькі Ты нас вядзеш да зары,

Хмарай дым над галовамі тае,
Вецер дыхае мятай, былём,
Беларусь, Беларусь залатая, ] x 2
За Цябе, за Цябе мы ідзём.

## 8. КАСІЎ ЯСЬ КАНЮШЫНУ

Касіў Ясь канюшыну, касіў Ясь канюшыну,
Касіў Ясь канюшыну, ] x 2
Паглядаў на дзяўчыну. ]

А дзяўчына жыта жала, а дзяўчына жыта жала,
А дзяўчына жыта жала, ] x 2
І на Яся паглядала. ]

-Ідзі, Ясь, да мяне, ідзі, Ясь, да мяне,
Ідзі, Ясь, да мяне, ] x 2
Спадабаўся ты мне. ]

Кінуў Яська касіць, кінуў Яська касіць,
Кінуў Яська касіць, ] x 2
Стаў ён мамку прасіць. ]

-Ці ты мамка, ці не, ці ты мамка, ці не,
Ці ты мамка, ці не- ] x 2
Ажані ж ты мяне. ]

Усе людзі жонак маюць, усе людзі жонак маюць,
Усе людзі жонак маюць, ] x 2
Абнімаюць і кахаюць. ]

Каб я жоначку меў, каб я жоначку меў,
Каб я жоначку меў, ] x 2
То б не піў і не еў. ]

-Дык бяры Станіславу, дык бяры Станіславу
Дык бяры Станіславу, ] x 2
Што, як сядзе, -на ўсю лаву. ]

Station Станіславы не хачу, Станіславы не хачу,
Станіславы не хачу, ] x 2
Бо на лаву не ўсяду. ]

-Дык бяры ты Яніну, дык бяры ты Яніну,
Дык бяры ты Яніну, ] x 2
Працавітую дзяўчыну ]

Што у полі жыта жала, што у полі жыта жала,
Што у полі жыта жала, ] x 2
На цябе паглядала. ]



## 9. ЛЮБЛЮ Я ГАЙНАЎШЧЫНУ НАШУ




Люблю я Гайнаўшчыну нашу,
Яе ўсе сёлы,гарадкі,
Тут кожна сьцежка мне знаёма, ] x 2
Тут пражываюць землякі,

Тут пражывалі нашы дзеды,
І дзедаў дзеды тут жылі,
Яны жылі і гаравалі, ] x 2
Цяпер ляжаць там дзе крыжы,

Люблю палеткі нашых вёсак,
Люблю дрымучыя лясы,
І нашу Пушчу Белавеску, ] x 2
І сенакосныя лугі,

Люблю я мову родну нашу,
Яе не можна не любіць,
Бо навучала яе маці, ] x 2
І бацька мой так гаварыў,

Люблю традыцыі нашы,
Бо гэта продкаў маіх дар,
Якія з даўна насялялі, ] x 2
Ваколіц Гайнаўкі абшар,

Люблю я песні родны нашы,
Люблю царкоуны сумны звон,
Бо гэта Гайнаўшчыны нашай, ] x 2
Жыцця і смерці ёсьць закон!

## 10. НОЧКА ПАГОДНА

e H7 e H7 e G
Ноч-ка па-год-на, зо-рач-кі све-цяць. Вый-дзі
D7 G D H7
дзяў-чы-но до га-ю. Там пры да-ро-зе ёсць бе-рэ
e H7 e
зонь-ка, там я на ця-бе чэ-жа-ю.

Ночка пагодна, зорачкі свецяць,
Выйдзі дзяўчыно до гаю.
Там пры дарозе ёсць беразонька, x 2
Там я на цябе чэкаю.

А я не выйду мой чарнябрывый,
Я хочу цябе кідаці.
Я цябе люблю, а ты жартуеш, x 2
Я хочу цябе забыці.

А як паедзеш ты ў свет далёкі,
І будзеш ў стэпі гуляці,
Можа прыпомніш сваю дзяўчыну, x 2
Што будзе з жалю умірацi.

Можа прыпомніш нашэ Падляшша,
Село ціхенька пад-ляском,
В ночку пагодну месачну, зорну, x 2
Можа ты успомніш мяне часом.



# II. ЧАРАЎНІЦА



Ля кры-ні-цы то-ль-кі шу-мя-ць ча-ра-ты, доў-га



я ча-ка-ла лю-бы, не пры-хо-дзіў ты, не пры-хо-дзіў



ты, бо не ве-даў, не га-даў што спа-тка-ння ля кры-



-ні-цы мне не пры-зна-чаў. Ты мя-не над кры-ні-цаю



на-зы-ваў ча-раў-ні-ца-ю, я ця-бе за-ча-ра-ва-ла ва-



-раж-бой, а са-ма за-ча-ра-ва-на-я та-бой.

Ля крыніцы толькі шумяць чараты,
Доўга я чакала любы, не прыходзіў ты,
Не рыходзіў ты, бо не ведаў, не гадаў,
Што спаткання ля крыніцы мне ты прызначаў.

Прыпеў: Ты мяне, над крыніцаю.
Называў, чараўніцаю,
Я цябе зачаравала варажбой,
А сама зачараваная табой. x 2

Можа ты не мной, чараўніцаю другой,
Зачараваны таемнай прыгавор-травой,
Буду варажыць, ці ждаць, ладзіць і ўгадаць,
Раскахаў ты, ці кахаеш, дзе цябе чакаць?

Прыпеў: Ты мяне, ты... x 2

На усёй зямлі, мы з табою адны,
Праплывуць над чаратамі белы туманы
І каханне зноў прывядзе цябе сюды,
Да крыніцы запаветнай, да жывой вады.

Прыпеў: Ты мяне, ты... x 2

## I2. ДУБОЧАК ЗЯЛЁНЕНЬКІ

Рухава

Ду-бо-чак зя-лё-нень-кі,І-вань-ка ма-ло-дзень-кі

ой,лі-лю-лі, ой,лі, ой, лю-лі, І-вань-ка ма-

-ло-дзень-кі.

Дубочак залёненькі,
Іванька малодзенькі,
Ой,лі-люлі,ой,лі,ой,люлі,
Іванька малодзенькі.

Іванька малодзенькі
Ідзе невясёленькі,
Ой,лі-люлі,ой,лі,ой, люлі,
Ідзе невясёленькі.

-Чаго,Ваня,журышся,
Чаго ты нахмурыўся?
Ой,лі-люлі,ой,лі,ой,люлі,
Чаго ты нахмурыуся?

-Ой,як мне вясёлым быць,
Ой,як жа не не тужыць?
Ой,лі-люлі,ой.лі,ой.люлі,
Ой,як жа мне не тужыць?

Ўсе мае таварышы
Даўно пажаніліся,
Ой,лі-люлі,ой,лі,ой,люлі,
Даўно пажаніліся.

А я,маладзюсенькі,
Хаджу халасцюсенькі,
Ой,лі-люлі,ой,лі, ой,люлі,
Хаджу халасцюсенькі.

Хаджу каля Дунаю,
Тапіціся думаю,
Ой,лі-люлі,ой,лі,ой,люлі,
Тапіціся думаю.

-Іванька,ідзі дамой,
Душы не губі сваёй,
Ой,лі-люлі,ой,лі,ой,люлі,
Душы не губі сваёй.

Адна ў цябе ўлюблена,
Яшчэ не зашлюблена,
Ой,лі-люлі,ой,лі,ой,люлі,
Яшчэ не зашлюблена.

Бяры ты нясмедую
За ручаньку бедую,
Ой,лі-люлі,ой,лі,ой,люлі,
За ручаньку бедую.

Вядзі ў сваю хатачку,
Пацеш мамку,татачку,
Ой,лі-люлі,ой,лі,ой,люлі,
Пацеш мамку,татачку.

## 13. ОЙ, У ПОЛІ КРЫНІЦА

Ой,у по-лі кры-ні-ца там ха-ло-дна ва-дзі-ца,

ва-дзі-ца.Ой у по-лі кры-ні-ца там ха-лод-на ва-

-дзі-ца. Там жу-ра-вель во-ду піў не на-піў-ся

ска-ла-ціў,ска-ла-ціў.

Ой,у полі крыніца-
Там халодна вадзіца,вадзіца.
Ой,у полі крыніца-
Там халодна вадзіца.

Там журабель воду піў,
Не напіўся-скалаціў,скалаціў.

Ой,у лесе пад дубом
Стаіць дзеўка з казаком,з казаком.

Вецер дубам шастае,
Хлопец дзеўку пытае,пытае.

-Дзяўчыначка,чытая ты?
Ці не выйдзеш гуляці,гуляці?

-Не пытайся,чыя я,
Як ты выйдзеш выйду я!



## I4. ЦІХІ ВЕЧАР

/сл.А.Русака, муз.Г.Вагнера/

Ці-хі ве-чар у су-зо-ры над ся-лом плы-ве,за-
-свя-ці-лі-ся аг-ня-мі ро-сы на тра-ве. Да ця-бе
не сам прый-шоў я,-сэр-ца пры-вя-ло,
а свай-му я сэр-цу,шчас-це тут знай-шло.

Ціхі вечар у сузор'і
Над сялом плыве,
Засвяціліся агнямі
Росы на траве.

Да цябе не сам прыйшоў я,-
Сэрца прывяло,
А свайму я сэрцу веру,-
Шчасце тут знайшло.

Не пытайся аб каханні,
Бо не адкажу,
Толькі знаю,што адна я
Без цябе тужу.

Толькі знаю,што пазнала
Радасць я з табой,
Толькі знаю,што адзіны
Ты любімы мой.

Заўтра мы насустрач сонцу
Выйдзем у палі,
Дзе красою веснавою
Нівы разцвілі.

А сягоння ясны месяц
Выплыў за сяло,
Не сама к табе прыйшла я,-
Сэрца прывяло.
x 2

## 15. РАННЯЮ ПАРОЮ

e H e
Ран-ня-ю па-ро-ю я ця-бе па-зна-ла мы гуля-лі
D G F a D
ў по-лі да за- ры.І та-ды ця-бе я шчы-ра па-ка-
G e a H e
. -ха-ла ты а-дзі-ны ў сэр-цы с той па-ры.

Ранняю парою я цябе пазнала
Мы гулялі ў полі да зары,
І тады цябе я шчыра пакахала,]
Ты адзін у сэрцы з той пары. ]

Непрыкметна лета з песняй праляцела
Пажаўцелі нівы і палі,
Пад вакном рабіна ярка чырванела,]
Адляцелі ў вырай жураўлі. ]

Добра на радзіме любы мне з табою,
Ты адзін у сэрцы з той пары,
Хай ляцяць за мора гусі чарадою,]
Хай прыдуць завеі халады. ]

## 16. О, МАТУЛЯ МАЯ

/сл.А.Малышкі, пераклад М.Аўрамчыка, муз.П.Майбарыды/




О,ма-ту-ля ма-я, ты на-чэй не да-спа-ла



І ва-дзіла мя-не ў па-лі край ся-ла, І да-лё-



-ка ў да-ро-гу ты мя-не на за-ры вы-праў-



-ля-ла І ручнік вы-шы-ва-ны на шча-сце да-ла

О,матуля мая,ты начэй недаспала
І вадзіла мяне у палі край сяла,
І далёка ў дарогу ты мяне на зары выпраўляла,
І ручнік вышываны на шчасце дала.
І далёка ў дарогу ты мяне на зары выпраўляла,
І ручнік вышываны на шчасце,на долю дала.

Хай квітнее на ім луг і росная сцежка,
І над рэчкаю гай, салавей дзе пяе,
І твая веснавая мацярынская шчырая ўсмешка,
І журботныя добрыя вочы твае.
І твая веснавая мацярынская шчырая ўсмешка,
І журботныя добрыя, сінія вочы твае.

Я вазьму той ручнік, пасцялю, быццам долю,
У ціхім шолаху траў, ў шчабятанні дуброў,
І на тым ручніку усё ажыве, што знаёма да болю,
І маленства й разлука й да сына любоў,
І на тым ручніку усё ажыве, што знаёма да болю,
І маленства й разлука й да роднага сына любоў.

## 17. А ЦІ УСЕ ТЫЯ САДЫ ЦВІТУЦЬ

mf Сола F … Дуэт

А ці ўсе ты-я са-ды цві-туць, што са-дзяц-ца,

Хор

па-лі-ва-юц-ца? Ці ўсе ты-я за-муж і-дуць,

што лю-бяц-ца ды ка-ха-юц-ца?

А ці ўсе тыя сады цвітуць,
Што садзяцца, палівацца?
Ці ўсе тыя замуж ідуць,
Што любяцца ды кахаюцца? ] x 2

Палавіна тых садоў цвіце,
Палавіна асыпаецца.
Палавіна замуж ідзе,
Палавіна разлучаецца. ] x 2

Былі ў полі тры крынічанькі:
Любіў хлопец тры дзявічанькі:
Чарнявую, бялявую,
Трэцю русу кучаравую. ] x 2

-Чарнявую ад душы люблю,
А з бялявай абвянчаюся,
А з русаю кучараваю,
Прыйдзе вечар-развітаюся. ] x

-Ці ж я табе не прыказвала
Як стаялі пад паветкаю:
„Не едзь, мілы, ў далёкі краі
Не застанеш мне дзявіцаю."

-Не застану цябе дзявіцаю,
Так застану маладзіцаю,
Датуль цябе любіць буду,
Усё раўно вазьму ўдавіцаю! ] x

# 18. БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЛІЦА

/сл.А.Пшчалкі, муз.М.Маўісона/

Andante. Павольна

Бе-ла-рус- ка- я зям- лі-ца мя- не узга-да-
-ва - ла.Ма- ці у мо- ве бе- ла- рус-кай песь-ні
мне сьпя-ва - ла.

Беларуская зямліца
Мяне узгадавала.
Маці у мове беларускай
Песьні мне сьпявала.

Гета мова і край родны
Над усё мне мілы
Не магу іх адчурацца
Да самай магілы.

Не магу іх адчурацца
Як рукі,як вока.
Няхай слава Беларусі
Плыве у сьвет шырокі.

# I9. ТЫ КАЗАЛА У ПАНЯДЗЕЛАК



-Ты казала ў панядзелак
Пойдзем разам з пасядзелак,
Я прыйшоў-тэбэ нэма:
Падманула, падвяла.

Прыпеў: Ты ж мэнэ падманула,
Ты ж мэнэ падвяла,
Ты ж мэнэ, маладага,
З ума-розума звяла. ] x 2

-Ты казала ў аўторак
Пацалуеш разоў сорак,
Я прыйшоў-тэбэ нэма:
Падманула, падвяла.

Прыпеў: Ты ж...

-Ты казала ў сярэду
Пойдзем разам на бяседу,
Я прыйшоў-тэбэ нэма:
Падманула,падвяла.

Прыпеў:Ты ж...

-Ты казала ў чацвер
Пойдзем разам на спацэр,
Я прыйшоў-тэбэ нэма:
Падманула,падвяла.

Прыпеў:Ты ж...

-Ты казала ў пятніцу
Пойдзем разам у святліцу,
Я прыйшоў-тэбэ нэма:
Падманула,падвяла.

Прыпеў:Ты ж...

-Ты казала у суботу
Пойдзем разам на работу,
Я прыйшоў-тэбэ нэма:
Падманула,падвяла.

Прыпеў:Ты ж...

-Ты казала у нядзелю
Пойдзем разам на вяселле,
Я прыйшоў-тэбэ нэма:
Падманула,падвяла.

Прыпеў:Ты ж...

## 20. ТОЛЬКІ З ТАБОЮ

/сл.А.Русака, муз.У.Любава/









Толькі з табою мне хочацца жыць,
толькі з табою,
Радасць,і шчасце,і гора дзяліць, ] х 2
толькі з табою.

Ранняй часінай к табе я лячу,
Познай парою,
Толькі табе прыхіліцца хачу, ] х 2
Сэрцам,душою.

Выйсці ў поле,дзе нівы шумяць,
там над ракою,
Першую зорку на небе спаткаць, ] х 2
толькі з табою.

І не так страшна ісці па пуці.
Будзе з табою.
І так ісці неразлучна ў жыцці, ] х 2
Толькі з табою.

## 21. МАНАЛОГ ПАЎСТАНСКАГА КАНЯ /1863г./

/сл.і муз. С.Сакалаў-Воюш/


















Ты сядзі ўпэўнена на маёй спіне,
Мы з табой не першы раз браце на вайне,
Мы з табой не першы раз пачынаем бой,
Ты сядзі ўпэўнена, я заўжды з табой.

Прыпеў: Цок, цок, цок, цок, вершнікі на конях,
Цок, цок, цок, цок, ты зважай, народ.
Цок, цок, цок, цок, і штандар з Пагоняй,
Цок, цок, цок, цок, кліча ў паход.

Недзе там на перадзе, проста ля ракі
Нас чакаюць свежыя, царскія палкі.
А за німі вольныя неба і мурог,
Прага неадольныя новы перамог.

Прыпеў: Цок, цок, цок...

Ты сядла не пакідай, вер што не змяню,
Толькі болей волі дай, мне-свайму каню.
Толькі болей волі дай, куля не кране,
Ты сядла не пакідай і не цугляй мяне.

Прыпеў: Цок, цок, цок...

## 22. КУПАЛІНКА




Купалінка, купалінка,
цёмная ночка,
Цёмная ночка,
А дзе ж твая дочка? ] x 2

Мая дочка ў садочку
ружу, ружу поліць,
Ружу поліць, ружу поліць,
белы ручкі коліць. ] x 2

Кветачкі рвець, кветачкі рвець,
вяночкі ўець,
Нацеж, нацеж вам дзяўчаткі
ўсім па вяночку. ] x 2

## 23. НЕ ПАГАСНУЦЬ ЗОРКІ Ў НЕБЕ

/сл.Я.Купалы, муз.М.Янчука і Равенскага/



Не пагаснуць зоркі ў небе,пакуль неба будзе,
Не загіне край наш родны,пакуль будуць людзі, х 2

Ночка цёмная на сьвеце вечна не пануе,
Зерне,кінутае ў ніву,усходзе ды красуе. х 2

Беларускаю рукою сьветлай праўды сіла,
Славу лепшую напіша Беларусі мілай. х 2

Зацьвіце наш край,як сонца пасьля непагоды,
У роўнай сіле,у роўным стане,між усіх народаў. х 2

## 24. А КАЛІ Ж ТОЙ ВЕЧАР

А калі ж той вечар
Дый павечарэе?
Калі ж мае сэрца
Дый павесялее?

-Прыйдзі ,прыйдзі ,мілы,
Да мяне дахаты,
Адчыню я дзверы,
Каб не чула маці.

Каб не чула маці,
Дый не гаварыла,
Каб нас,маладзенькіх,
Дый не разлучыла.

А як адчыняла,
Цяжка я ўздыхала,
А як выпускала
Мілага пытала.

-Скажы,скажы,мілы,
Скажы,мой міленькі,
Ці напраўду любіш,
Ці з мяне смяешся?

Ці напраўду любіш
Ці з мяне смяешся,
Да другое ходзіш-
Мне не прызнаешся?

-Я цябе,дзяўчына,
Любіў,любіц буду,
Сазнаюсь па праўдзе-
Сватаці не буду.

Рад бы цябе ўзяці-
Не веліць мне маці,
Як цябе вазьму я,
То не ўседжу ў хаце.

## 25. РОДНЫ КРАЙ

g C D7 g C F
Шы-ра-кое пра-стор і раз-до-лле І заў-сё-ды не
B G G7 C F B D7 g C
знаю ча-муЯвы-хо-джу ў бя-лют-ка-е по-ле і ві-та-ю
D7
ма-роз і зі-му.

Шыракое прастор і раздолле
І заўсёды не знаю чаму-
Я выходжу у бялюткае поле ] х 2
І вітаю мароз і зіму.

Сонца ў кожнай сняжынцы іскрыцца
Асыпае праменнямі гай,
Кожны раз не магу надзівіцца, ] х 2
Наглядзецца на свой родны край.

## 26. ОЙ, У ПОЛІ ТРЫ КРЫНІЧАНЬКІ

УМЕРАНА

Ой,у по-лі тры крыні-чанькі,лю-біў хлопец тры

дзяўчынанькі чар-ня-ву-ю,бя- ля-ву-ю іру-су-ю

ку-ча-ра-ву-ю.

Ой,у полі тры крынічанькі,
Любіў хлопец тры дзяўчынанькі:
Чарнявую,бялявую ] x 2
І русую кучаравую.]

-Чарнявую ад душы люблю,
З бялявай павянчаюся,
А з русай кучаравую ] x 2
Назаўсёды развітаюся.]

-Ці ж я табе не прыказывала,
Як сталі,прыгаварывала:
Не едзь,мілы,у далёкі край,] x 2
Бо застанеш маладзіцаю!]

-Любіў я цябе дзявіцаю,
Буду любіць маладзіцаю,
Датуль цябе любіць буду,] x 2
Пакуль вазьму удавіцаю!]

Не ўсе ж тыя ды сады цвітуць,
Не ўсе ж разам асыпаюцца,
Не ўсе ж тыя з сабой жэняцца,] x 2
Што любяцца ды кахаюцца.]



## 27. МОЙ РОДНЫ КУТ

/сл.Я. Коласа, муз.І.Лучанка/

Мой род-ны кут, як ты мне мі-лы!
За-быць ця-бе не ма-ю сі-лы! Не раз,у-том-
-ле-ны да-ро-гай, жыц-цём вяс-ны ма- е ў-бо-
-гай, к та-бе я ў дум-ках за-ля-та- ю і
там ду-шо- ю спа-чы-ва--ю, і там ду-шо - ю
спа-чы-ва - ю.

Мой родны кут,як ты мне мілы!
Забыць цябе не маю сілы!
Не раз,утомлены дарогай,
Жыццём вясны мае ўбогай,
К табе я ў думках залятаю
І там душою спачываю,
І там душою спачываю.

II Вось як цяпер,перада мною
Устае куточак той прыгожа,
Крынічкі вузенькая ложа
І елка ў пары з хвaiною,
Абняўшысь цесна над вадою,
Як маладыя ў час кахання,
У апошні вечар расставання

III Люблю цябе,мой берагродны,
Дзе льецца Нёман срэбраводны,
Дубы дзе дружнай чарадою
Стаяць,як вежы,над вадою...
Мой родны кут,як ты мне мілы!
Забыць цябе не маю сілы!
Забыць цябе не маю сілы!

# 28. СПАДЧЫНА

/сл.Я.Купала, муз.І.Лучанок/

Moderato cantabile

Ад пра-

-дзе-даў спа-кон вя-коў мне за-ста-ла-ся спад-чы-на.

Паміж сва-іх і чу-жа-коў я-на мне лас-кай мат-чы-най

Аб ёй мне ба-юць каз-кі-сны вя-сен-

- ні-я пра-та-лі-ны. І ле-су шэ-лест ве-рас-ны

і ў по - лі дуб а-па - ле-ны 2.Аб -ны

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай.

Аб ёй мне баюць казкі-сны
Вясеннія праталіны,
І лесу шалест верасны,
І ў полі дуб апалены.

Аб ёй мне будзіць успамін
На ліпе бусел клёкатам
І той стары амшалы тын,
Што лёг ля вёсак покатам.

Аб ёй мне баюць казкі-сны
Вясеннія праталіны,
І лесу шэлест верасны,
І ў полі дуб апалены.

І тое нуднае ягнят
Бяянне-зоў на пасьбішчы,
І крык вароніных грамад
На могілкавым кладзьбішчы.

Жыве з ім дум маіх сям'я
І сніць з ім сны нязводныя...
Завешча ж спадчына мая
Усяго С т а р о н к а й Р о д н а ю. ] x 2



# 29. МОВА РОДНАЯ

/сл.Я.Купала/

Мо-ва род-на-я,
мо-ва дзя-доў, ін-шай мо-вы мы ў сэр- цы ня
мі-ла гуч-нась-цю лю-бых нам
чу-ем; мі - ла гуч-нась-цю слоў ты, як
мі - ла- гуч-
му- зы-ка сэр-ца ча-ру-еш. мі-ла гуч-нась-цю
гуч-нась-цю
лю- бых нам слоў ты, як му- зы-ка, сэр-ца ча-
-ру- еш.

Мова родная, мова дзядоў,
Іншай мовы мы ў сэрцах ня чуем;
Мілагучнасьцю любых нам слоў
Ты, як музыкай, сэрца чаруеш.

З-пад вясковых прыветлівых стрэх
Пералівна зьвініць ад сьвітаньня,
Бы дзявочы рассыпісты сьмех,
Бышцам першае ў сэрцы каханьне.

Мова наша-буйны цьветабой;
Разьлілася у ёй першая радасьць,
Словы матчыны сыпалі зь ёй,
Як цьвяточкі адцвіўшага саду.



## 30. РУЧНІКІ

/сл.В.Вярбы, муз.М.Пятрэнкі/

Умерна

У су-бо-ту Ян-ка е-хаў ля ра - кі ,пад вяр-бой А-

лё-на мы-ла руч-ні-кі, Па-ка-жы А-лё-на, бро-ды

зем-ля-ку, дзе тут пе-ра-е-хаць на ка-ні ра-ку? //-Аі...

У суботу Янка ехаў ля ракі,
Пад вярбой Алёна мыла ручнікі.
-Пакажы,Алёна,броды земляку,
Дзе тут пераехаць на кані раку?

-Адчапіся,хлопец,едзь абы-куды,
Не муці мне толькі чыстае вады.
У маркоце Янка галавой панік,
Упусціла дзеўка беленькі ручнік.

-Янка,мой сакалік,памажы хутчэй,
Ой,плыве,знікае ручнічок з вачэй.
-Любая Алёна,я вады баюсь,
Пацалуй спачатку,што,як утаплюсь?

Супыніўся гнеды пад вярбой густой,
Цалавала Янку,Лэна над ракой.
Стала ціха,ціха на ўсёй зямлі, ] x 2
Па рацэ далёка ручнікі плылі...]

## 31. ЛЯВОНІХА

А Ля-во-ні-ху Ля-вон палю-біў Ляво-нісе чара-

вічкі ку-піў Ля-во-ні-ха душа лас-кава-я ча-ра-

віч-камі па-ляс-кі-ва - ла

А Лявоніху Лявон палюбіў,
Лявонісе чаравічкі купіў.
Лявоніха душа ласкавая,
Чаравічкамі палясківала.

Як я моладаа ў матулькі была,
Як вішанька ў садочку цвіла,
Цвіла,цвіла ды пацвітывала,
З малайцамі ды пагулівала.

Ой,Лявоніха,Лявоніха мая,
Ты такою прыгажуняй не была.
Як збярэмся мы у свята пагуляць,
Нам Лявоніхі сваёй не пазнаць.

Ах,Лявоніха,Лявоніха мая,
Ты сягоння,нібы ружа,расцвіла,
Расцвіла буйнымі кветкамі
З добрым мужам,да і з дзеткамі.



## 32. ЗАГРАЙ ТЫ ДЗЯЎЧЫНО

За-грай ты дзяў-чы-но ў зя-лё-ным са-доч-ку,
там дзе мы ся-дзе-лі ка-лісь ты песню спя-ва-ла
па струнах гі-та-ры а я ў тва-е во-чы дзі-віўсь
дзі-віўсь.

Заграй ты дзяўчыно,ў зялёным садочку
Там,дзе мы сядзелі калісь,
Ты песню спявала па струнах гітары, ] х 2
А я ў твае вочы дзівіўсь.

Ты песню скончыла,гітару злажыла
І месяц на нас пагляда́ў.
І кветкі пахнелі,і штось нам шапталі ] х 2
А ты ўсе мяне не пускаў.

Дзяўчыно-галубко,ходзь сядзь каля мяне,
Надыйшаў разлукі нам час,
Прысядзь пагаворым,абняўшысь з табою, ] х 2
Бо шчэ ты заплачаш не раз.

А я ўязджаю ў чужую старонку,
Не знаю,вярнусь я ці не,
Загіну без цябе,мая ты галубко, ] х 2
Загіну ў чужой старане.

Ты знайдзеш там кращу,ад мяне багатшу
І будзеш яе ты любіць.
За золата шчасця не купіш ніколі, ] х 2
А сэрцанька можаш згубіць.

## 33. БЕЛАРУСАЧКА

Я гля-жу на тва-е ко-сы ру-сы-я не ма-гу на-гля-

-дзеца ні-як.Бе-ла-ру-сач-ка,бе-ла-ру-сач-ка да-ра-

га-я ся-броўка ма-я,бе-ла-ру-сач-ка,бе-ла-ру-сач-ка

да-ра-га-я ся-броў-ка ма-я.

Я гляджу на твае косы русыя
Не магу наглядзецца ніяк.
Беларусачка,беларусачка, ] x 2
Дарагая сяброўка мая.

У краях незнаёмых,нязведаных
Буду ў радасці я ці ўжурбе.
Беларусачка,беларусачка, ] x 2
Не забуду ніколі цябе.

Я вярнуся к табе сінявокая
Калі ў кветкі адзенецца край.
Беларусачка,беларусачка, ] x 2
Ты хоць зрэдку мяне ўспамінай.



## 34. ОЙ, ТЫ КРАЙ МОЙ ЗАЛАТЫ

/сл.В.Кавыля, муз.Э.Зубковіча/

Allegro moderato

Ой, ты край мой за-ла-ты,

край мой ва-сіль-ко-вы! Над ра-ко-ю ча-ра-ты

Alt solo

пуш-чы і ду-бро-вы. Як цым-ба-лы, звон-кі бор,

Sopr. solo

ў зе-ля-ні да-лі-ны, срэ-бра рэ-чак і ва-зёр,

1. 2.

вы-рай жу-раў-лі-ны. Край мой ва-сіль-ко-вы.

Ой, ты край мой залаты,
край мой васільковы!
Над ракою чараты,
пушчы і дубровы.

Як цымбалы, звонкі бор,
ў зелені даліны,
Срэбра рэчак і вазёр,
вырай журавліны.

Пад дугою шархунцы,
коні вараныя...
Шыр і бель ва ўсе канцы,
песьні маладыя...

Над ракою чараты,
пушчы і дубровы...
Ой, ты край мой залаты,
край мой васільковы!

# 35. КОЛЬКІ Ў НЕБЕ ЗОР

/сл.і муз.А.Шыдлоўкага/

Коль-кі ў не-бе зор цяж-ка па-лі-чыць,

толь-кі з іх ад-на най-яр-чэй га-рыць.

Гэ - те ты,ма-я зор- ка яс-на-я,

ты,лю-боў ма-я не па-гас-на-я //-я.

Колькі ў небе зор-цяжка палічыць,
Толькі з іх адна найярчэй гарыць.
Гэта ты,мая зорка ясная, ] x 2
Ты,любоў мая непагасная. ]

Ў працы і ў жыцці добра нам з сабой
Марыць і любіць з песняй маладой.
Дзе так добра жыць,дзе такі прастор, ] x 2
Шчасця больш у нас,як на небе зор. ]

Край шырокі наш,мірны дарагі,
У ім бягуць удаль светлыя шляхі.
Мне з табой па іх хочацца ісці ] x 2
І усё дзяліць разам у жыцці. ]





## 36. ВЫ ШУМЕЦЕ БЯРОЗЫ

/сл.М.Гілевіча, муз.Э.Ханка/

Вы шу-ме-це,шу-ме-це нада мною бя-ро-зы,ка-
лы-шэ-це,люляйце свой на-пеў ве-ка-вы.А я ля-гу
прылягу у край гасцінца старога, На духмяным
пракосе недаспелай травы.

Вы шуміце,шуміце нада мною бярозы,
Калышыце,люляйце свой напеў векавы.
А я лягу,прылягу ў край гасцінца старога, ] х 2
На духмяным пракосе недаспелай травы. ]

А я лягу,прылягу у край гасцінца старога,
Галавой на пагорак,на высокі курган.
Расстаўлёныя рукі вольна ў шыр я раскіну ] х 2
А нагамі ў даліну хай накрые туман. ]

Вы шуміце,шуміце,нада мною бярозы,
Абымайце,мілуйце ціхай ласкай зямлю,
А я лягу,прылягу ў край гасцінца старога, ] х 2
Я здарожыўся трохі,я хвіліну пасплю. ]

## 37. СЛУЦКІЯ ТКАЧЫХІ

/сл.М.Багдановіча, муз.М.Шчаглова/

Moderato. Памерна

mp (адзін голас)

Ад род-ных ніў, ад род-най ха-ты у пан-скі

mf (хор)

двор дзе- ля кра-сы я-ны бяз-доль-ны- я у- зя-ть

ткаць за- ла-ты - я па-я - сы. сы.

Ад родных ніў, ад роднай хаты.
У панскі двор дзеля красы,
Яны бяздольныя узяты,
Ткаць залатыя паясы.

I цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персыдзкі ткуць яны.

А за сьцяной сьмяецца поле,
Зіяе неба з-за вакна,
I думкі мкнуцца мімаволі,
Туды, дзе расьцьвіла вясна.

Дзе блішча збожжа у яснай далі,
Сінеюць міла васількі.
Халоднім сребрам зьзяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі.

Цямнее край зубчаты бору
I тче, забыўшыся рука
Заміж персыдзкага узору
Цьвяток радзімы вас.. ька.

## 38. ОЙ, СІВЫ КОНЬ БЯЖЫЦЬ

Ой, сі-вы конь бя-жыць, на ім бе-ла гры-ва.

Ой, спа-на-ра-ві-лась, ой, спа-на-ра-в -лась

мне та-я дзеў-чы-на ой, спа-на//дзяў-чы-на. 2. Не так та

Ой, сівы конь бяжыць.
На ім бела грыва,
Ой, спанаравілась, ⎤
Ой, спанаравілась ⎥ x 2
Мне тая дзяўчына. ⎦

Не так та дзяўчына,
Як яе ліченько,
-Ой, падай, дзяўчына, ⎤
Ой, падай, дзяўчына, ⎥ x 2
На коня ручаньку. ⎦

Рукі не падала,
Тры словы сказала:
-Няхай бы я была, ⎤
Няхай бы я была, ⎥ x 2
Кахання не знала. ⎦

Бо тое каханне,
З вечора да рання.
Як сонейка ўзыдзе, ⎤
Як сонейка ўзыдзе- ⎥ x 2
Каханне разыдзе... ⎦



# 39. ТАМ У ПОЛІ ОЗЁРЭЧКО



Там у полі озёрэчко,
Там плывало вядэрэчко,
Дубовэ клэпкі,
Сосновэ дэнца,
Не журайся маё сэрца. ] x 2

Там плывало і другое
вядэрэчко дубавое,
Выйдзі дзяўчына
Выйдзі кахана,
Пагаворымо з табою. ] x 2

-Я не буду выхадзіці,
Мяне маці будзе біці,
Выйду я з двора,
Як буду твоя,
Ты не мой,
А я не твоя. ] x 2

Хлопец коніка сядлае,
Да дзяўчыны прамаўляе,
-Ці мне тапіцца,
-Ці мне жаніцца,
-Ці да дому вараціцца. ] x 2

-Ой ты хлопец не тапіся,
Бо ты душу загубіш,
Едзьмо звенчаймось,
Едзьмо звенчаймось,
Калі ты мне верна любіш. ] x 2

# 40. ВОСЕНЬ

/сл.А.Гаруна, муз.Э.Зубковіча/





Гу-сі і кач-кі гур-та-мі зьбі-ра-юц-ца,за-раз на



поў-дня зу-сім па-ля-цяць; Ста-я па ста-і на



рэч-цы зьмя-ня-ец-ца,ўранку кры-чаць на ва-дзе ла-па-



цяць.



Так неў-сьця-рэж-на ча-са-мі,дзя-нёч-ка-мі восень зьмя



ня-е аб-ліч-ча зям-лі...З дня-мі бяз сон-ца,ха-лод-ны-мі



ноч-ка-мі цяж-кі-я дум-кі мне ў сэрца прыйшлі.Неш-та



ста-ро-е у-сё ўспамі-на-ец-ца,толькі ня-яс-на,маў-



-ляў праз ту-ман, Ней-кі ня-ве-да-мы жаль узды-маецца,




ва-біць і ця-гне ўспамінак-дур-ман.



Сэр-ца ба-ліць пад жа-даньняў пры-му-



са-мі,што за жа-дань-ні-ні-як не пазнаць.Мо-жа ля-



-це-ці адгэтуль за гу-ся-мі,мо-жа зас-нуць




знаць...

Гусі і качкі гуртамі зьбіраюцца-
Зараз на поўдня зусім паляцяць.
Стая на стаі на рэчцы зьмяняецца,
Уранку крычаць на вадзе,лапацяць.

Так неўсьцярэжна часам дзянёчкам
Восень зьмяняе абліча зямлі...
З днямі бяз сонца,халоднымі ночкамі
Цяжкія думкі мне ў сэрца прышлі.

Нешта старое усё ўспамінаецца,
Толькі няясна,маўляў праз туман.
Нейкі няведамы жаль уздыймаецца,
Вабіць і цягне ўспамінак-дурман.

Сэрца баліць пад жаданьняў прымусамі,
Што за жаданьні-ніяк не пазнаць.
Можа ляцеці адгэтуль за гусямі?...
Можа заснуць,каб нічога ня знаць?...

## 41. ВЯНЕ РУТА

Вя-не ру - та дя пры-са - даў: чар-

-ня-ва-я дзяў-чы-нень-ка мне пры-на-да! Чар-

-ня-ва-я//-да!

Вяне рута ля прысадаў:
Чарнявая дзяўчынёнька – ] x 2
Мне прынада!

І не піў бы, і не еў бы –
Да чарнявае дзяўчыны ] x 2
Паляцеў бы!

Паляцеў бы, ды не мушу:
Распаліла чарнявая ] x 2
Серца, душу.

– Ці ты п'ян быў, ці змыліўся,
Што ў такую некрасівую ] x 2
Улюбіўся?

– Я не п'ян быў, не змыліўся:
У дзявочы чорны вочы ] x 2
Я ўлюбіўся!

## 42. ЖЫТА-МАЦІ

Жыта-маці, жыта-маці
Жыта, ні палова
Як дзяўчыну не любіці, калі чорнаброва.

Прыпеў: Ой, сама я не знаю
Што рабіці маю
Ой, ці з тым, ці не з тым
Сама не ўгадаю. ] x 2

Жыта-маці, жыта-маці
Жыта, ні пшаніца
Як дзяўчыны не любіці,
Калі чапурыца.

Прыпеў: Ой, сама... х 2

Голуб сівы, голуб сівы
Голуба сівенька
Бацька міды, маці міла
Дзяўчына міленька.

Прыпеў: Ой, сама... х 2

Жыта-маці, жыта-маці
Жыта паласочкі
Як дзяўчыны не любіці
Калі чорны вочкі.

Прыпеў: Ой, сама... х 2

## 43. РАНЕНЬКА Ў САДОЧКУ










Рана раненька ў садочку
Я убачыла сьлядочкі.
Хтось тут вечарам блудзіў,
Ля акна майхо хадзіў, ля акна майхо хадзіў. | х 2

Я пазнала адгадала,
Так мне сэрца падказала.
Вечароваю парой, тут хадзіў любімы мой, ] x 2
Тут хадзіў любімы мой.

Мусіць доўга ад змяркання,
Ён чакаў са мной спаткання.
І хадзіў туды-сюды, ]
І пакінуў тут сляды, ] x 2
І пакінуў тут сляды. ]

Учора маму я прасіла
Каб яна мяне пусціла.
Выйсці вечарам ў сад ]
Быў бы любы вельмі рад, ] x 2
Быў бы любы вельмі рад. ]

Мама строга прыказала,
Каб я доўга не гуляла.
І не шла там да сяла, ]
Дома з вечара была, ] x 2
Дома з вечара была. ]

Ох, няўжо ж ёй невядома,
Што ўседзець нельга дома.
Калі любы пад вакном, ]
Калі хораша кругом, ] x 2
Калі хораша кругом. ]

## 44. БЕЛАРУСЬ

/сл.У.Жылкі, муз.А.Паўлёнка/

Беларусь, Беларусь, гэты зык,
Паліць душу маю як агнём,
Я не ведаю чым ён вялік,
Але думак не змог я аб ём.
Як пачую яго задрыжыць,
Маё сэрца займе ў грудзях,
І балюча так робіцца жыць,
І шукаеш чагосці ў людзях.
Беларусь, Беларусь, x 2

Беларусь, Беларусь, гэтых слоў
Пойме музыку, хто усёй душой,
І магутны тужлівы іх зоў
Зловіць думкай сваёю жывой.
Затрапеча бы ранены ён,
Задрыжыць пад навалаю дум,
Гэткі, страшна пакутны іх стогн
І аб волі бязмерны іх сум.

Беларусь, Беларусь, х 2

Беларусь, Беларусь, гэта дзей
І разумных, і слаўных прыклад,
Край вялікіх, і дум, і людзей,
І бязвольна схіліўшыхся хат.
Дзе няволя і воля спрадвек
І бядота сярмяжных жывуць,
Крыўда дзе, паняверка і здзек
Краскай макавай ярка цвітуць.

Беларусь, Беларусь, х 2

## 45. НЕ ЗАБУДЗЬ...



Дзе бы ты не пасяліўся, дзе б не звіў сабе



гняздо ні, каб ты не забыўся дзе калісь быў



малышом, не забудзь сваёй хаты, дзе жылі



бацька і маці, там ў калысцы калыхалі і спя-



-валі бай-лю-лі.

Дзе бы ты не пасяліўся,
Дзе б не звіў сабе гнязд0,
Помні каб ты не забыўся
Дзе калісь быў малышом.

Не забудзь сваёй хаты,
Дзе жылі Бацька і Маці,
Там у калысцы калыхалі
І спявалі, байлюлі. ] x 2

Ганарысь Мовай Роднай,
Ты яе не забывай,
А калі хто запытае
Беларус-ты добра знай.

Не забудзь дзе вучыўся
Вымаўляць першы словы,
Добра ведай, што трэба
Мову Родну шанаваць. ] x 2

Аа-а-а-а-а
Аа-а-а-а-а
Добра ведай, што трэба
Мову Родну шанаваць.



# З М Е С Т

E L E M E N T Y   W Y M O W Y   B I A Ł O R U S K I E J

Alfabet białoruski:

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Аа | Бб | Вв | Гг | Дд (Дж дж Дз дз) | Ее | Ёё | Жж | | | |
| a | be | we | ge | de | e | jo | że | | | |
| Зз | І | Йй | Кк | Лл | Мм | Нн | Оо | Пп | Рр | Сс |
| ze | i | jot | ka | eł | em | en | o | pe | er | es |
| Тт | Уу | Ўў | Фф | Хх | Цц | Чч | Шш | Ыы | Ьь | Ээ |
| te | u | u | ef | cha | ce | cze | sza | y | znak miękki | e |
| Юю | Яя | | | | | | | | | |
| ju | ja | | | | | | | | | |

1. „Г", „г" czytamy jako „h"
2. „О", „о" czytamy zawsze jako „o"
3. „А", „а" czytamy zawsze jako „a"
4. końcówkę „цца" wymawiamy jako "cca", nie jako "tsia"
5. „дзі" czytamy jako [dź] lub [dzi]
6. „Ў", „ў" zazwyczaj czytamy między [u] a [ł] lub jako [u]
7. „І", „і" czytamy jako [i]
8. „Й", „й" ---"---"---[j]
9. „сь" ---"---"---[ś]
10. „ць" ---"---"---[ć]
11. apostrof "'" np пад'ехаць czytamy jako pauzę.



Poligrafia NOT B-stok, Zm.257/89; A-6; nakład 3000 egz.

